УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)-5
К63

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка» заснаваная ў 2009 годзе

Падсерыя «Пункт адліку» заснаваная ў 2012 годзе

Фота на вокладцы *Зміцер Самусь*

**Комар, Г.**

К63 Страх вышыні : вершы / Ганна Комар. — Мінск : Кнігазбор, 2016. — 68 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).

ISBN 978-985-7144-96-9.

У дэбютную кніжку паэзіі Ганны Комар увайшлі выбраныя дзіцячыя і дарослыя страхі паэткі. Гэтыя вершы, народжаныя з няўмення ездзіць на ровары і спавітыя паэтыкай сэлфхарму, хвалююць, бянтэжаць, раздражняюць, пужаюць, не пакідаюць абыякавымі, абяцаюць надзею. Уважлівыя даследаванні ценяў вар'яцтва на тле кожнага кахання, сяброўства, падарожжа ці дзіцячага ўспаміну даводзяць, перадусім, безумоўную каштоўнасць каханых, сяброў, падарожжаў і ўспамінаў.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)-5**

**ISBN 978-985-7144-96-9**

## Не прарасту

Кладбищенской земляники
спелее и слаще нет.
*М. Цвятаева*

Мама сказала: «Былі на могілках — там прыбрана,
пасыпалі толькі нейкай дрэнню,
каб трава не расла».
Я падумала: аднойчы мяне пахаваюць таксама,
рэшткі мае паспрабуюць прабіцца да свету праз цемру,
ды сустрэнуцца з чымсьці непрабіўным, нібы каменне.

Калі нашчадкі мае прыйдуць мяне наведаць
(калі ў мяне будуць нашчадкі, а ў іх будзе час прыйсці),
ні кроплі маёй крыві не будзе ў гэтай высахлай глебе,
ні косткі мае, ні вантробы,
ні памяць мая не здолеюць прарасці.

І той, хто праз сто год тут выпадкова пройдзе,
суніцаў не знойдзе і не пачуе траваў маіх уздых.
Ды ведаеш, мама, зараз жа ўсё нежывое ў модзе
і мёртвыя гучна скардзяцца на жывых.

*28 красавіка 2014*

## Адказ на верш Эн Сэкстан «Жаданне памерці»

Калі Вам цікава, Эн, я памятаю амаль усе
дні, калі мне не хацелася болей жыць.
Яны — нібы шэраг салдат, што па чарзе
збіваюць мяне ды ніяк не могуць дабіць.

Ведаеце, Эн, у іх сапраўды ўласная мова:
звычайна яны пытаюць мяне, калі ўжо
я дасягну крайняй кропкі й прыму іх умовы
ды скончу вайну, застаўшыся сярод тых, хто не выжыў.

Unlike you, Эн, я не спараджала самагубстваў,
але інцэст самагубстваў нарадзіў мяне.
Спосаб — пытанне адно разнастайнасці густаў,
мне ўсё адно, што — таблеткі, лязо
ці вяроўка — выйграе ў гэтай вайне.

Разумееце, паважаная Эн, сярод маіх хвароб —
не толькі жаданне памерці, але й праклятая баязлівасць.
Таму вайна цягнецца і не перамагае ніводны бок,
мне не вытрымаць больш, я здаюся, нада мной
злітуйцеся.

Бо ў гэтай камеры катаванняў
выбіваюць нейкую ісціну
з непасцігальных.

*10 траўня 2014*

****

тут мяжа
і мы накрытыя
сонцам, якое сышло
за поле
сонцам што здраджвае мне
з іншым часавым поясам
такім жа часовым
як усё на гэтай планеце...

*7 ліпеня 2014*

## Падгледжанае

Яна ведае яго жонку,
ён бачыў яе мужчыну на фотках,
таму яны распытваюць адно аднаго аб сваіх палавінках,
прыкідваюцца тонкімі псіхолагамі,
робяць выгляд, што іх цікавяць размовы,
і маўчаць пра галоўнае:
яны, вядома ж, кахаюць сваіх абраных,
але іх вабіць адно да аднаго неадольна;
і на колькі іх хопіць, не ведае аніхто —
кожная іх сустрэча пры сведках
можа стацца апошняй,
пазней яны ўсё забудуць, нібы нічога не адбылося,
таму што насамрэч нічога і не было.

*23 чэрвеня 2014*

## Ідыётка

мяне завуць Жазэфіна,
я — фонтрыераўская ідыётка.
я гуляюся ў свабоду
ад сацыяльных рамак.
я маладая, не бачыла шчэ жыцця,
але тут я сустрэла
гэтакіх жа ідыётаў, як я.
мяне завуць Жазэфіна,
я — фонтрыераўская ідыётка.
я назіраю за тым,
што адбываецца побач
вачыма вялікімі, поўнымі
захаплення і прадчування
непазбежнага game over.
мяне завуць Жазэфіна,
я — фонтрыераўская ідыётка.
госць камуны вар’ятаў,
што вераць, быццам
здольныя разбудзіць у сабе
тых адважных, што йдуць да канца,
тых сапраўдных, што здольныя быць сабой,
тых адчайных, якіх забаўляюць
вашыя палахлівыя позіркі.
мяне завуць Жазэфіна,
я — фонтрыераўская ідыётка.
я тут пакахала,
цяпер я ведаю, як
гэта балюча.
цяпер мне страшна,

цяпер я хачу дадому
і не хачу дадому.
мяне завуць Жазэфіна,
а гэта — мой бацька.
ён — мае межы,
ён — мае кайданы,
ён — мае вярэды,
ён — мая турма,
ён — мае страхі,
ён — мая пасрэднасць,
ён — мая штучнасць,
маё неіснаванне.
мяне завуць... Ганна.
я — ідыётка...

*12 ліпеня 2014*

## Калі Ганна сышла...

Калі Ганна сышла,
ад яе засталіся дзіцячыя страхі:
засталіся шматамі кашэчай поўсці ляжаць на падлозе,
засталіся чакаць на стале кнігай,
адкрытай на трэцяй старонцы,
засталіся на крэсле вісець сукенкаю хатняй.

Калі Ганна сышла,
ад яе засталіся дзіцячыя страхі,
бо яна перадала іх тым, хто калісьці быў побач:
спярша каханаму, потым сябрам,
што сустрэліся на шляху,
выпадковым знаёмым, што трапілі пад руку,
цырульнікам, кандуктарам, прадавачкам у крамах —
усім, каго хоць аднойчы кранала Ганна.

Ганна перадавала дзіцячыя страхі
праз пацалункі ў вусны, ілбы і шчокі,
штурхаючы за плечы і паціскаючы рукі;
тулячыся ў абдымках глыбокіх,
Ганна змагла перадаць найболей страхаў.

Таму калі Ганна сышла, яны засталіся,
і запаўзаюць глыбей у закуточкі душаў.

Ганна таму і сышла, што немагчыма з імі
ні змагацца, ні жыць далей.

*12 жніўня 2014*

## Сустрэць цябе

Сустрэць цябе — усё адно, што шаснуць па венах,
выпадкова — калі галіла падпахі, брытва выслізнула.
Я хацела яе схапіць — прыціснуць каленам,
ды да вены прыціснула.

Спачатку зрабілася страшна, потым перамагла
цікаўнасць:
разглядаць, як кроў выплюхваецца, нібы верш у
натхненні.
У пэўны момант адчула кайф і яму аддалася —
можа, у трызненні, можа быць, у летуценні.

Вырашыла праверыць, як доўга вытрымаю,
калі ён заўважыць, што я на нагах трымаюся ледзь,
калі зразумее, што я гулялася з брытваю,
калі ён навучыцца на мяне глядзець

і бачыць. Калі здагадаецца, што там, у ваннай,
адбылося тое, пра што ён і думаць не мог?
Калі схопіць мяне за руку і ўбачыць рану?
Калі мне акажа першую медычную дапамогу?

...
Сустрэць цябе — усё адно, што шаснуць па венах.
Калі я цябе страчу — значыць, яны паспелі
«вырataваць». І я зноў зачыненая між чатырох сваіх сценаў.
Сустрэнемся ў наступным жыцці — у тваёй пасцелі.

*13 лістапада 2014*

***

Каханне-эксперымент у стылі арт-хаўс.
Такое кіно ніколі не ўбачаць масы.
Яго паказвалі на закрытых паказах
тром-чатыром не крытыкам.
Усё абышлося без лішняга пафасу.

Такім кіно не пахвалішся перад сяброўкамі,
не пакажаш на гадавінах, народзінах,
святах з іншай нагоды.
Толькі тыя тры ці чатыры сведкі часам пытаюць:
Як яно?»
— *Ляжыць, чакае сваёй новай хвалі ды іншай моды.*

*18 лістапада 2014*

## Кожны чацвёрты

Я — кожны 4-ы незнаёмы мінак,
кожная 4-я праблема, у якой ты вінаваты,
кожнае 4-е жыццё, якое ты пражыў не так,
кожны 4-ы бомж: без мэты, без працы, без хаты.

Кожны 4-ы кат. І краты.

Ты — кожная 4-я кніга, да якой я не даспела,
кожная 4-я спраўджаная мара й выкананы план,
кожны 4-ы дэсерт, які я не даела,
кожны 4-ы бяздомны сабака, якога я падабрала.

Кожнае 4-е знявечанае цела. І джала.

Мы — кожнае 4-е непрамоўленае слова
                                    і няскончаны сказ.
Кожны 4-ы крок наш выбіваецца з агульнага рытму.
Кожны 4-ы жаночы раман
                                    мог бы быць напісаны пра нас
разам з кожнай 4-й вершаванай паэмай
                                                        з няўдалай рыфмай.

Кожны 4-ы воз, што заграз
пасярэдзіне ўсімі любімага міфа
пра каханне.

*26 снежня 2014*

## Сябру

Нашы ўнутраныя барыкады, сябра,
аднойчы абрынуцца…
дамбу прарве,
сцяна не вытрымае націску
супрацьлеглых
бакоў, што прагнуць зноў аб’яднацца.
Мы будзем трымацца
да апошняга выжыўшага пачуцця,
пакуль ця-
бе і мяне не выплюхне
на востраў усяго пражытага,
пакуль не выплюне
з вонкавага жыцця,
пакуль мы не зробім крок над полем жытнім тым,
пакуль не вычарпаем крыніцы быцця,
пакуль не выкрычым, не выплачам,
не выдыхнем-
ся…

*31 снежня 2014*

***

мяне няма
чыстая вусціш
неапранутая ў форму
вандроўная здань
літаратуры
непісьменных народаў
музыка
якую чуюць глухія
адсутнасць коду
квант
хвост кванта
цень кванта
у бессвядомым сусвету

*21 студзеня 2015*

## адпускаю

я адпускаю цябе з паветрам маіх лёгкіх,
са слязьмі дзяўчынкі, што клянчыць лялькy,
са стырном машыны, што вылецела на сустрэчку.
адпускаю цябе, як націск у мове, дзе ён свабодны,
як курс даляру — нацбанк,
як прэзідэнт — палітвязня.
нібы шарык з вадой, цябе адпускаю з даху,
выганяю, нібы блашчыц з–пад шпалераў у інтэрнаце,
выводжу цябе, нібы блыхаў з поўсці любімай жывёлы,
выплёўваю, нібы зуб, што выпаў сам, без крыві,
і на развітанне
змываю імя тваё з дошак, сцен і асфальту,
здымаю твой твар размыты з мужчынаў,
лашчу сябе апошні раз тваімі рукамі.
дапісваю сказ, каб урэшце перагарнуць старонку,
рыхтую паперу для новых зачараванняў.

*22 лютага 2015*

## выдаленая

ты выдаліў мяне з усіх
кантэкстаў
а я дасылаю табе паштоўкі
з подпісамі
вось я скокнула з Замкавай гары
і прачнулася
а тут ускараскалася на
гару Трох Крыжоў але
нічога не ўбачыла
далей за свой нос
аднаго дня горад знік
засталіся я і рака
каб зняць заклён
я мушу пераплыць яе
толькі я не ўмею плаваць
толькі ты ўмееш
але ў цябе іншыя планы
на фінал майго сна
таму я не спяшаюся
прачынацца

*13 сакавіка 2015, Вільня*

# Лялька

Гэтая лялька ні ў чым не вінаватая.
Ёй выдралі вока, замест яго ўплішчылі гузік.
З асаблівай жорсткасцю адрэзалі вуха.
Зашылі рот тоўстай голкаю для абутку.
Адарвалі руку, кінулі котцы гуляцца.
Паміж ног прарэзалі дзірку,
каб магла нараджаць падобных сабе вырадкаў.
Перацягнулі шыю ружовай стужкаю з бантам
ды носяцца з ёй, люляюць яе ў калысцы,
кормяць з лыжкі, а ежа сцякае па падбароддзі —
сукенка заляпаная нечым
падобным да супу ці спермы.
У лялькі на целе з’яўляюцца плямы,
гаспадыня не можа ўцяміць:
хіба я кепска цябе даглядаю?!
Крыўдзіцца: няўдзячная лялька!
А ноччу лялька адкрывае вока,
развязвае вузел на шыі,
адрывае другое вуха і запіхвае
яго ў прамежжа,
каб запоўніць пустэчу.
Дапаўзае да тых, хто калісьці прынёс яе ў дом
і кладзецца між імі ў ложак.

*17 сакавіка 2015*

## сон на дваіх

Спі, Вільня, спі, пагамонім, калі прачнешся,
няхай новы дзень без цябе пачнецца.
Спі, Вільня, спі, мой па-за-рэчаісны горад,
спі, Вільня, спі, бо навокал самота і холад.
Я паляжу тут, побач, каб пабачыць твае сненні,
іх лабірынтамі доўга блукаць і лёгка знаходзіць выйсці.
Я на імгненне вочы заплюшчу, усяго на адно імгненне…
Вільняле пяе, Ужупіс ёй падпявае намаляваным лісцем.

*17 красавіка 2015, Вільня*

## Маім мужчынам

Мужчынам не варта ведаць наступстваў, ім дастаткова прычын —
ім урэшце даецца ўсё, а яны напаўняюць яго нічым...
З імі лепш не спрачацца пра тое, што будзе,
каб не страціць таго, што ёсць.
*Сяргей Жадан*
*Пераклаў А. Хадановіч*

Мае мужчыны
такія занятыя:
зарабляюць грошы,
ратуюць свет,
вандруюць,
кахаюць іншых...
але
параўноўваюць кожную
наступную са мной.
Мае мужчыны
зазіраюць глыбока
ў вочы і
абяцаюць
адказаць, адпісаць,
сустрэць мяне з
падарожжаў у сябе,
спаткацца са мной у снах,
але забываюцца
на абяцанкі,
а я кожнага ранку,
ідучы на працу
бязлюдным завулкам,
прагаворваю іхныя
імёны ўслых,

каб
сэрца сціскала
салодкім болем...
Сваіх мужчынаў
я адпускаю лёгка...
Некалькі дзён я —
адкаркаваная
пляшка з шампанскім,
б’ю цераз край,
тады выдыхаюся,
раблюся пойлам...
Мае мужчыны
пакідаюць
мяне лёгка:
робяць выгляд,
што мы заўсёды
былі сябрамі.
Я нават не спрабую
спрачацца з імі.

І я ніколі
не буду належыць
маім мужчынам,
і каханне — гэта
такая куля,
што вырываецца з гільзы
і застрае між рэбраў.
Там яе і пакіну,
як сувенір на памяць.

*15 траўня 2015*

## Замова

Перад тым, як ты
мяне пакінеш,
выканай адну маю просьбу:
напішы для мяне верш —
у ім узгадай падрабязна
ўсё, што запомніў.
У ім
раскажы, як я
заганяю голкі
сабе пад пазногці
і крычу ад болю,
бо не ўмею крычаць ад
асалоды.
Раскажы, як
праз высокі ціск
з носа майго
сочыцца мова
і пэцкае твае белыя кашулі.
Раскажы, як я
кожным суботнім ранкам
выграбаю з шафаў
шкілеты, паточаныя моллю,
але іх не меншае там.
Як я на кожнай рэчы,
што ёсць у кватэры,
надпісала нашы імёны,
бо забываюся, дзе тут — тваё,
а дзе — маё месца.
Раскажы, як я
мяняю ўспаміны

на грубы цукар,
як я, каб легчы ў ложак,
здымаю скуру,
а ты так баішся
аголенай плоці,
што ніколі са мной
не ночыш.
Напішы пра мяне верш
і крычы яго,
прачнуўшыся ад кашмараў,
глытай яго замест амфетаміну,
любі яго так, як зручна і як бяспечна.
Напішы — і мне не паказвай ніколі.
Будзь яму бацькам і
замяні яму маці.
Мне ж пакінь апошнія два радкі,
Якія
нічога,
абсалютна нічога не значаць.

*8 чэрвеня 2015*

## Матулі

Пупавіна правадоў расцягнулася на ўвесь мой шлях — па іх бяжыць ток. Не ты яго вынайшла, не ты замоўца, не галоўны інжынер, нават электрык з цябе не атрымаўся б, бо месцы разрываў ты завязвала б вузлом, ствараючы аварыйныя сітуацыі. Нават не электрычны слуп, бо ніякага на цябе апірышча. Напэўна, ты — провад, а я — ягоны працяг. І разам мы — частка бясконцай лініі электраперадач.

Большасці выпала быць адно спажыўцамі электрычнасці, а мы не маем права ірвацца, мы мусім вытрымліваць наймацнейшы накал, скачкі напружання, птушыныя зграі, змены надвор'я... берагчы ізаляцыю — не дапускаць аголенасці на лініі...

Дзе заканчваешся ты — пачынаюся я.
Мы — пераносчыкі току, неабходнага дзеля жыцця.
Не мы выбіралі лёс, але лёс выбраў нас.

Я не вінавачу цябе за тое, што я не ток,
што я — толькі провад.
Не вінавачу цябе ні за што,
не вінавачу цябе,
не вінавачу,
не...

Я цалую твае зморшчынкі,
лашчу твае валасы.
Я дарую табе
ўсё
раз і назаўжды,
родная.

*чэрвень 2015*

## Не тая

Не азірайся, прашу, — тонкія цені
тых, кім мы былі ўночы, не абуджай.
Памятай: той, хто навучыўся сеяць,
рана ці позна збярэ свой ураджай.

Я ж — зерне генна-мадыфікаванага плода:
не прарасту, колькі ні палівай.
Я не той, хто тобі патрібен, я — чарговая няўдалая спроба.
І таму ідзі. Не азірайся. Бывай, бывай...

*16 чэрвеня 2015*

## Масква-Піцер

*Чатыром вандроўніцам*

З самалёта на вышыні 10 тысяч метраў,
на адлегласці ліхтароў, бачных з 62-га паверха,
на хуткасці за 2 хвіліны да спазніцца,
на радасцях ад новай курткі, кофты, спадніцы,
коштам «У мяне дастаткова, і я хачу падзяліцца».

Колеру Чырвонай плошчы, зялёных паркаў,
фіялетавых фантанаў,
музыкі хваляў Нявы, што разбіваецца аб борт «Мецеора».
Вецер зрывае капелюшы, матросы клічуць нас унутр,
але нам нармалёва.
Гарбата робіць нас п’янымі. Рытм думак — ірваны.

Часу ніколі не хопіць, колькі ні атрымай.
Важна адкрыць гештальты, сабраць заплечнік
і вытрымаць інтэрвал
між порамі года, нагодамі альбо святамі,
пакуль з шаліка не выветрыцца Дзіор,
з вуснаў не сатрэцца памада.

Потым ускочыць у аўтобус, цягнік ці самалёт
і FULL ON, ПОЎНЫ НАПЕРАД, ПОЛНЫЙ ВПЕРЁД!

*17 жніўня 2015*

## На няспраўджаную гадавіну

Я пазбаўляюся рэчаў,
падораных ёю,
нібы ад пяску, што патрапіў
між пальцаў ног,
у сандалі, складкі бялізны,
сумку з адзеннем,
пупок, інтымныя часткі цела.

Нібы адмываюся ад
тоўстага слоя бруду,
што нарос на мне,
пакуль у раёне
чатырнаццаць дзён
не было гарачай вады.

Кашуля, начная кашуля,
халат у гарошкі,
свечка, паштоўка,
іконка — і ты
ад сваёй пазбаўся:
як бачыш, яны
не абараняюць.

Я думала, падарункаў
болей, але аказалася —
толькі гэта, плюс
пару ўсмешак, лічаныя
абдымкі і добрыя
словы на святы.

Болей праяваў
прыязні я не
ўзгадаю.

Грошы не лічацца,
грошы — адсоткі
за твой крэдыт.
Але лічацца ейныя словы,
якімі яна прывязвала
мяне да стала, дзе
разбіраюць тушы забітых
каханняў.
Іх я дашлю ёй
прыгожа запакаванымі
на гадавіну іхнай з
мужам сумеснай
смерці.

Без подпісу. Без зваротнай
адрэсы. Да
запатрабавання. Астатняе
раздам,
вынесу ў смецце, а лепей —
спалю, каб дакладна
пазбавіць
моцы
ейныя
праклёны.

*24 жніўня 2015*

## Ветру

Вецер з мора,
праслізнуўшы скрозь цясніны гор,
даляцеў сюды і
спыніўся.

Спачатку спрабуе лізнуць мяне:
пакаштаваць на смак,
ці дастаткова салёная
для мужчыны з такім
характарам непакорлівым.

Кранае скуру маю:
наколькі тонкая,
ці бягуць мурашы
ад ягоных дотыкаў,
ці паскараецца пульс,
ці закіпае кроў пад ёй.

Удыхае ўсю мяне:
ці пахну горадам
з ягонымі клопатамі
шэра-зялёнымі,
чатырма чужымі краінамі,
іхнімі гарэхамі, слівамі,
вінам ды аліўкамі,
альбо паху не маю зусім?

Я праходжу
ўсе выпрабаванні.
Вецер ахінае мяне
цёплымі хвалямі,
пахам солі і ёду,
і сярод гукаў, ледзь
чутных чалавечаму вуху,
я магу пачуць:
«Я хацеў бы спаткацца з табою зноў, Ганна...»

*25 ліпеня 2015, Смалян, Балгарыя*

## Па швах

Восень зашпільвае на ўсе гузікі,
а я разыходжуся па швах
з кожнай новай раніцай
у новым месцы,
пачынаючы з ног.
Нібыта, калі мяне сшывалі,
сэканомілі на нітках.
І я ляжу, не ў сілах падняцца,
сабрацца ў нешта суцэльнае.
Збярыце мяне —
заліце мяне суперклеем.

*12 верасня 2015*

## Лета на біс

Лета выйшла на біс.
Я сяджу пад пад’ездам, пляскаю ў ладкі,
зачараваная нервовым крокам тваім
і мігценнем жоўтага светлафора.
Пасля шпацыру ў спіну колецца кара дрэва
з начнога парка.
Цябе, мяне і двор бачна, напэўна,
з Мінскага агляднага кола.

Лета выйшла на біс.
Дало нам апошні шанец пабыць сабой
там — на той лаўцы, дзе мы ў мінакоў — як на далоні.
Ты мне махаеш рукой, маўляў «не стой,
не глядзі мне ў спіну, я кепскі, не твой, не той».
Ідзі, толькі лета не забірай з сабой.
Сыходзь, толькі лета пакінь мне.

*18 верасня 2015*

## Міру мір

*Юлі*

Вайна скончылася перамогай абодвух бакоў,
бо вайна — гэта не жаночая справа,
нават калі ты больш адчуваеш сябе мужчынам,
нават калі ты прымаеш выклік і гатовая страляць —
вайна не справа паэтаў,
вайна не справа зачараваных жыццём.
Па радыё сказалі, зіма будзе доўгай, і нам
лепш назапашваць цяпло і раздзьмуваць любоў.
Віншую сябе з загойваннем ран,
нанесеных мне маім унутраным ворагам.
Віншую цябе з днём вызвалення.
Там, дзе заўтра ты знойдзеш свой новы дом,
няма вайны, таму вежы тут пакідай.
Я пакладу табе ў заплечнік ссабойку з мовай —
нашай агульнай мовай, якая перамагла.

*15 кастрычніка 2015*

## Поле...

Вецер вяртае нам
позіркі, што мы кідаем у бок акіяну
са скалы вышынёй маіх і тваіх памкненняў,
складзеных разам,
колер вады — вочы дзяцей, якіх
мы з табой не народзім.
Недакранальная веліч стыхіі,
што танчыць пад барабаны ветру
і выгінаецца хвалямі насустрач скалам —
прымае іх у сваё ўлонне.
...
Я ўсё яшчэ памятаю свой страх вышыні,
і я шукаю тваю руку
не дзеля таго, каб ты мяне стрымаў,
а дзеля таго, каб мая рука
выслізнула з тваёй,
каб надаць гэтай сцэне
мастацкую вартасць.
...
Зіма. Маразы. Горка, залітая
на месцы будоўлі.
Я качуся з горкі
на здзьмутым коле.
Наперадзе — дзяцінства
і шчыры смех.
І снег — як tabula rasa — белы.
Калі б я ведала, што зіма
аднойчы прыйдзе і застанецца,

што ад доўгага холаду
заінеюць вейкі і
празрыстаю зробіцца скура,
што паліто нашыя зносяцца,
а на новыя мы ніколі ўжо
не заробім,
што падпалім усе нашы фотаальбомы,
зачынімся ў спальні
і задыхнемся ў дыме ўспамінаў,
я б не коўзалася з горкі разам з усімі,
я б пайшла да возера, дыхала б
доўга на лёд ля палонкі,
і не крычала б «Дапамажыце!»,
бо не люблю прыцягваць увагу.
...
Я раблю крок насустрач вялікім водам.
Яны расхінаюць свае абдымкі.
Я застануся ў іх навечна —
яны мне заменяць абдымкі маці і сябра.
Ты адзначыш мінус адзін да кармы
і ў пятніцу будзеш танчыць
з нябачнай дагэтуль жарсцю,
нікому не скажаш, што таксама смуткуеш
і не, не схлусіш.
...
Кастрычнік, а травы набрынялі сокам і колерам.
Я не памятаю, як апынулася тут,
але ўжо не вылучаю сябе з гэтага месца.
Неба цяжарнае і хутка народзіць дождж.

Значыцца, я прарасту ў гэтым полі.
Я назаўжды застануся ў гэтым полі.
Я прачынаюся ў родным полі...

*4 лістапада 2015*

## Цягнік не прыбудзе на канцавую станцыю

Наш цягнік узлятае —
на канцавой станцыі
нас не чакае ніхто.
Заплюшчвайце вочы:
у вагонах — слязісты газ.
Не хадзіце ў першы і
апошні вагоны —
трымайце ў сабе рэшткі
пераваранных эмоцый.
Сядзенняў не хопіць на ўсіх —
зрэшты, лёс усё адно напаткае
вас — сядзіце вы
альбо стаіце ў праходзе.

Наш цягнік узлятае,
бо няма ніякае канцавое станцыі,
ні прыпынку, ні прытулку, ні дома —
толькі бясконцы шлях у нябёсах.

*15 лістапада 2015*

## Завершаны канцініум

Я сядала ў цягнік і ведала: не засну,
хоць наперадзе — сямігадзінны трамплін у новы дзень
і трэба паспаць, каб пражыць яго,
як мае быць.
Птушкі з запясця майго пераляцяць
на правады.
Алені на маім швэдры
вырвуцца ў бязснежную далячынь.
А я сышла з рэйкі на каляіну,
ды пакуль што не разумею,
ці на сваю.

Кава торкае не горш за амфетамін,
калі яе рэдка п’еш.
На суседніх паліцах спяць,
а ты ціха зайздросціш ім.
У вакне — нічога, акрамя цемры
і сцюдзёнага бляску рэек.
Шлях дадому — шчасце,
калі ведаеш, дзе жывеш.
Таксіст сказаў, што паспеем,
і мы паспелі: не гналі на чырвонае,
не абганялі, не парушалі правілаў —
на ўсё свой час.
І калі ты спазняешся туды, дзе
не можаш не быць,
ён нерухомее. Ты маеш імгненне,
каб спыніцца ў захапленні,
а потым спяшацца далей.

Ускочыш у свой вагон — усё
заварушыцца зноў.
Паліца ніжняя,
суседзі ціхія,
ветлівая правадніца загадала
не плакаць, бо сваякі здаровыя,
а ты — маладая, прыгожая і разумная.

І вось калі ўсё так, як ты замаўляла,
навошта ты просіш буру?

*7 снежня 2015*

## Пазакласнае

Што я магу прапанаваць табе?

Тэорыя даўно пройдзеная і замацаваная,
ты — практык.
Пакуль я састаўляю на паліцах прачытанае,
ты жывеш, як у сюжэце для кніг.

Што я магу адкрыць табе?

Ты прадказваеш кожнае
маё наступнае слова,
бо ўсё маё новае — добра забытае
табой старое,
і ты спасцігаў непісаныя ісціны
раней, чым мужчына і жанчына,
што нарадзілі мяне,
зліліся ў акце
пяшчоты ці абавязку...

Што я магу расказаць табе?

Мая караценькая гісторыя
хавае мяне ў скрыню, каб
тугою я не атруціла наваколле.

Мы сустрэнемся толькі, калі ты
пойдзеш назад, бо даганяць цябе —
значыцца мінаць простае і пераскокваць
адразу да складанага, а гэта

няправільна з пункту гледзішча
педагогікі.

Ты — усе мужчыны, якіх я кахала,
якіх я абагаўляла,
да якіх імкнулася,
за якіх чаплялася,
як за буксір,
што выцягваў мяне на наступны
ўзровень.

Што вучаніца можа прапанаваць настаўніку?

Кароткая спаднічка,
прыгожыя ножкі,
усмешка і прапанова
застацца на дадатковы
занятак пасля ўрокаў.

Вечарам ты сядзеш
пераглядаць сшыткі
лепшых вучаніц.
А я — пісаць работу
над памылкамі.

*2015*

## І калі ты знайшоў сябе ў гэтым вершы, не думай, што ў ім больш нікога.

Чаму ў мяне іхныя імёны, а ў іх — мае?
Каторая з нас першая, а каторая — адзіная?
Каторую з нас ты хочаш, а ад каторай хочаш дзяцей?
Пытанні выстрэльваюць, калі ты глядзіш на мяне.

Трамвай, што прывозіць світанак у горад,
дзеліць ноч на *да* і *пасля*.
Раней я таксама мела за лепшае ночыць дома,
ды адрасы дамоў сталі мяняцца занадта часта.

Цешуся, што паміж намі ні крыўды, ні здрады:
хто нічога не абяцаў, абавязкаў не мае.
І калі мы здараемся часам па пятніцах,
мы кахаемся, але не кахаем.

*27 снежня 2015*

## Жанчыне

*Прысв. Анне-Марыі*

Гнуткая, як твае думкі,
пругкая, як твая скура, цемра…

Ноч, дотык за дотыкам,
раскрывае таямніцы твайго цела,

забірае голас — пакідае
пункціры і кропкі.

Ты — нібы карабель,
мною без бою захоплены,

гойдаешся на хвалях, пакуль
я даследую, што

за скарбы ў трумах, і тут цябе
накрывае шторм.

На раніцу нас з табою на бераг вынесе лёс.
Напаўпрытомная, я дасылаю сігналы sos,
мінаючы радыёхвалі — папросту ў нябёсы.

*20 снежня 2015*

## Пакеціраваныя ўспаміны

*Жэні*

Ты выпіў мае ўспаміны —
іх быў цэлы пачак. 30 пакецікаў.
Называліся Winter-нешта-там,
я называла іх проста «той самы пах».
Я ад'ехала ненадоўга
на радзіму тых успамінаў.
А ты і дагэтуль не разумееш,
чаму ты злыдзень.
Новыя ўспаміны я буду хаваць
больш надзейна.
А з кожнай новай краіны
табе адмыслова прывозіць
пачкі гарбаты.

*21 снежня 2015*

## Я маўчала!!!

Я маўчала, калі цябе выкідалі п’янога з аўтобуса:
у мяне была лялька — я клапацілася пра яе
і прыціскала да грудзей сваіх моцна.
Ты сяк-так падымаўся і мы рухаліся далей

да аднаго з пад’ездаў дома нумар пятнаццаць,
дзе цябе чакала купка блазнаў і дурняў.
Яны думалі, гэта весела, і я мусіла ўсміхацца
(моўчкі): ты вучыў мяне быць культурнай.

Я маўчала, калі вострыя зубы відэльца
ўпіваліся ў мякаць тваёй рукі.
Я адчувала сябе тапельцам,
што ідзе на дно тваёй белай ракі.

Я маўчала, калі мы з матуляй грукаліся да суседзяў
перачакаць, пакуль перастане быць вострым нож.
Я б аддала моўчкі ўсе кніжкі на свеце,
каб даведацца, што нам дапаможа.

Я маўчала, пакуль ты ламаў зэдлікі, шафы, нашыя лёсы
і працягваў нас ва ўсім вінаваціць.
У тваіх вачах памерлі вясна, лета і восень.
Я чакала першага снега, я чакала, каб стаць дарослай
і тады больш не магчы маўчаць.

Я маўчала і вызначала па кроках настрой,
я маўчала, калі мяне не пыталі.
Я маўчала — я так хацела быць добрай дачкой.

Я маўчала, калі ты трапляў у шпіталі,
калі даваў абяцанні, калі парушаў іх,
маўчала, калі ты засынаў там, дзе падаў.

Пакуль мяне падымаў над зямлёй мой паветраны шарык,
наш дом заносіла снегападам.

*3 студзеня 2016, Баранавічы*

## Балярына больш не танцуе

Ёсць людзі, якія...проста не твае.
Толькі водар іх можаш удыхнуць,
нахіліўшыся да твару,
нібыта не пачула апошнюю фразу,
не рукамі, не вуснамі — позіркам толькі
слізнуць па ўсмешцы.
Яны — высокая вежа, з якой бачныя
асветлены ліхтарамі дах Карлсана і
свет у вокнах Вілы Кавардакулы,
але брама ў вежу зачыненая, і
табе застаецца аглядаць начны горад
з вакна бара, што
пасяліўся ў хмарачосе.
Ты для іх — усё адно, што музычная
скрыня 19 стагоддзя для
прыхільнікаў сучаснага мастацтва.
Маленькая балярына
круціцца пад музыку,
калі скрыню адчыняюць —
бо больш нічога не ўмее.
Яны не азірнуцца, каб убачыць, што
шкатулка зламалася,
балярына больш не танцуе.
Цяпер яе такую не прымуць
нават у мясцовую
антыкварную краму.

*7 студзеня 2016, Стакгольм*

## Чаму людзі робяцца злыя

Людзі, якія доўга сядзяць у чарзе ў паліклініку,
робяцца злыя.
Людзі, якія таўкуцца ў гадзіну-пік у грамадкім транспарце,
робяцца злыя.
Людзі, якія так шмат працуюць, што прапускаюць абед,
робяцца злыя.
Людзі, у якіх так мала грошай, што няма за што паабедаць,
робяцца злыя.
Людзі, калі спякотна, робяцца злыя.
Людзі, калі сцюдзёна, робяцца злыя.
Людзі, якіх ніхто не любіць,
робяцца злыя.
Людзі, якіх любяць занадта моцна, —
часам таксама.
Я ўжо трэцюю гадзіну сяджу ў паліклініцы,
прыехала ў завіруху, у гадзіну-пік,
снедала, на вячэру павінна хапіць.
І не злуюся, бо ведаю,
што мяне любяць самыя цудоўныя
людзі ў свеце.
А яшчэ таму, што чытаю
добрую кніжку пра мумітроляў.

*12 студзеня 2016*

## Зачынена

Зачынена
знутры!

Зачынена
знутры!!

Зачынена
знутры!!!

Можаш
грукацца
грамчэй.

Можаш
ламаць
дзверы.

Можаш
да світанку
стаяць
пад
вокнамі.

Але…

зачынена
знутры,

і
там
нікога.

*21 лютага 2016*

## Neoceratodus forsteri

У Афрыцы жыве рыба —
называецца рагазуб; яна
можа гадамі трываць без вады
і ежы. Калі іх няма,
яе арганізм
запавольвае ўсе працэсы,
і рагазуб
абрынаецца ў сон і спіць,
пакуль побач не
з’явіцца прэсная вада.

Сёння поўня — на моры адліў.
Я рагазуб, які ляжыць
тут, на гэтым беразе, што яшчэ
нядаўна быў марскім дном.
Я выпінаю вочы і зіркаю
ў неба, пакуль не прымаю
ўсім сваім схаладнелым целам,
што вада сышла.

Калі б ты быў уважлівым,
то зразумеў бы адразу,
што рагазуб не жыве ў моры.
А значыцца,
я дарэмна чакаю…
я
дарэмна
чакаю
прыліву.

*24 лютага 2016*

## Фрагменты

Я збіраю цябе,
адзіны мой,
па чужых краінах,
злізваю з вуснаў
мужчын, што
гавораць на розных
мовах.

Не тая, не тая, не тая мова...
і зноў не тая.

Ад кожнага з іх
па кропельцы —
і ў пробаўку,
не падпісваючы імя,
месца і дату —
толькі рысы характару,
потым іх усе сінтэзую,
калі назбіраю дастаткова
для цэлага чалавека...

І ты будзеш, ведаеш,
нават не пазл — а квілт,

у памяць пра тых,
каго я заразіла
вірусам веры ў тое,
што аднойчы
болей не стане
самоты.

**Квілт — ласкутная коўдра; выкарыстоўваецца таксама як сімвал памяці памерлых ад СНІДу.*

*6 сакавіка 2016*

## Лінгвістычная мапа сэрца

Мы з табой гаварылі на расейскай,
хоць нямецкая ёсць тваёй матчынай.
У сярэдзіне слова «Интенсивно»
[с’] у цябе рабілася [з’].

Я запомніла адметную інтанацыю
твайго «Nu tak» —
цяпер заўжды кажу гэтак жа
на занятках па польскай.

Ты вучыў мяне вымаўляць
«lovely» з правільным ірландскім
акцэнтам.

З эстонскай мовы я запомніла слова
«Armastus» (каханне),
але яно нам так і не спатрэбілася.

Маё сэрца — мапа Еўропы,
на якой панатыкана чырвоных
сцяжкоў.
Апраўдваюся любоўю
да моваў і дарог.
Я ведаю: роднасць душаў
абмінае межы і візы, але
кожны з іх прапануе сустрэцца
і, можа, пакажа новае мора,
ды ніводны не навучыць
ездзіць на ровары.

*17 сакавіка 2016*

## Мой дзень народзінаў

*1*
Цікава, калі перастаць адзначаць
дзень народзінаў,
ці перастанем мы старэць?
Можа быць, мы запускаем
працэс старэння,
калі пачынаем лічыць гады?
А так толькі прадавачка ў аддзеле
алкаголю і цыгарэт
будзе ведаць, што табе
больш за васямнаццаць.

*2*
Чаму б на дзень народзінаў
замест таго, каб ушаноўваць сябе,
не ўшанаваць памерлых?
Наведаць месцы
памяці альбо могілкі.
Memento mori —
і пра мёртвых помні
таксама. Бо сумнеўна, ці
такі ён твой — гэты твой голас.

*3*
Альбо проста паехаць туды,
дзе цябе не ведаюць
ні каты, ні птушкі, ні
людзі. Забурыцца ў бар,
заціраць тутэйшым, што сёння

79-ы дзень года.
У гэты дзень
памёр Уладзімір Дубоўка,
нарадзіўся Майсей Кульбак,
сёння
Міжнародны дзень шчасця,
Імяніны Ганны — і больш
пра сябе а ні слова.

*20 сакавіка 2016*

## Самота вечнага падарожніка

Пустыя вачніцы кватэры праводзяць мяне да дзвярэй.
Сарваны голас, кропелькі слёз на падлозе.
З кожным страчаным домам губляю часцінку надзеі
на тое, што мне па дарозе

з кімсьці, акрамя ветру ў спіну.
Ні сцежкі, ні сцяга — самота ад мора да мора.
Адпрэчыўшы ўсё, я толькі сабе пакіну
ўсмешкі сяброў, што будуць мне ноч асвятляць, як зоры.

*7 красавіка 2016*

## Пераезды

Частыя пераезды нішчаць памяць:
успаміны робяцца цяжарам,
таму ад іх пазбаўляешся.
Знаходзіш жанчыну, якая
збірае хлам, і аддаеш ёй
свае сувеніры, а наўзамен
нават атрымліваеш шакаладку.
Фотаздымкі — бацькам,
яны вынаходзяць на іх цябе —
незнаёмую, нечаканую.
Не прывозіш магніцікі з падарожжаў —
маці злуецца, бо яны
замінаюць ёй мыць халадзільнік.
Не забыцца аддаць у дабрачынную краму
сукенку са школьнага выпускнога.
Пакідаеш толькі сумку з посудам,
сумку з абуткам (пераважна без абцасаў)
і адзенне — па дзве пары ўсяго, на змену.

Ты казаў, пасля 17-га пераезду
ўжо не страшна.
Не страшна пасля 14-га.
Да ўсяго прывыкаеш,
бо, па сутнасці, змяняецца толькі
адлегласць да метро,
асартымент крамаў паблізу,
колер дамоў, на якія глядзяць вокны,
колькасць пакояў,
аб'ём асабістай прасторы,

кубачкі для наведнікаў
і самі наведнікі.
Пастаянна гасціць толькі туга.
І адказваючы «дома» на пытанне «дзе ты?»,
я сама ўсё менш даю сабе веры.

*Сакавік 2016*

## Маім вам

Рэйсавымі аўтобусамі з Мінска ў Маскву і назад
перадаваць табе ад яго — апельсіны і вінаград,
яму ад цябе — скуркі ды косткі.
Яму ад цябе — пацалункі і вёсны,
табе ад яго — абдымкі і вечнае лета.
Мне спазняцца нельга, бо
хутка псуецца
гэты тавар.

*Чэрвень 2016, Масква — Мінск*

## Страх вышыні

Пакутую ад панічнага страху ўпасці.
Мне 6, я вучуся ездзіць на ровары:
падаю, разбіваю каленкі,
пашкрэбаныя далоні.

Тата
залізвае раны мне, як той сабака,
і боль суціхае.

Мне 27, а я
на ровары ездзіць не ўмею,
страх застаўся.
Дзе ты цяпер, тата, дзе ты цяпер,
столькі ранаў — хто іх загоіць?
Ну і што, што сама ўжо дарослая.

Выслізваюць з рук прадметы,
каштоўныя і не вельмі.
Няхай разбіваюцца —
гэта ўсяго толькі рэчы,
іх на свеце багата,
з людзьмі не так,

з людзьмі, чыя ўсмешка
заўсёды перад вачыма,
на чыім вобразе —
ніводнае плямы.

Хутка месяц,
як мы без цябе тут,
мой светлы сябра.
Я жыву цяпер толькі на дахах,
бо баюся расчыненых вокнаў
дванаццатага паверху…

*8 чэрвеня 2016, Мінск*

***

Раскажы, чаму тут так дажджліва летам
і няма ў кім схавацца?

*17 ліпеня 2016, Вільня*

***

Перад сцяной дажджу
жанчына ў чырвоных пальчатках
і мужчына з цішай у вачах.
Зоры адбіваюцца ў іхных далонях, бы ў люстры,
і разбіваюцца аб іхныя самкнёныя вусны.
Яны ловяць думкамі цені дрэваў.
Што яны бачаць у гэтай цемры
і як?

Толькі сны.

Жанчына ў чырвоных пальчатках
і мужчына з цішай у вачах,
каб сагрэцца,
прыхінуліся спінамі да сцяны...

*30 ліпеня 2016, Нарач*

# Змест

У «Пункце адліку» серыі «Кнігарня пісьменніка»
ўжо выйшлі:

1. Анка Упала. *Дрэва энталіпт*
2. Катерина Зыкова. *Объяснительная*
3. Кирилл Дубовский. *Хороший роман*
4. Наста Манцэвіч. *Птушкі*
5. Андрэй Пакроўскі. *Як я перастаў верыць у Дзеда Мароза*
6. Віялета Пачкоўская. *Арэхападзенне*
7. Таня Скарынкина. *Книга для чтения вне помещений и в помещениях*
8. Анохін Кірыла. *Асцярожна, дрэвы зачыняюцца*
9. Лянкевіч Уладзь. *70% вады*
10. Оаро Кацярына. *Сарочае радыё: лісты падзякі*
11. Антон Рудак. *Верхні горад*
12. Андрей Лазуткин. *Полигон*
13. Таня Светашёва. *Разные вещи*
14. Мікіта Найдзёнаў. *Развітанцы*
15. Міхал Бараноўскі. *VOLUMEN.1*
16. Аляксей Арцёмаў. *Скрозь кіламетры*
17. Евгений Бесчастный. *СТОЙ!*

Літаратурна-мастацкае выданне

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Падсерыя «Пункт адліку»

**Комар** Ганна

# СТРАХ ВЫШЫНІ

*Вершы*

Рэдактар Валянцін Акудовіч
Кансультант Таццяна Нядбай
Камп'ютарны дызайн, вёрстка Юліі Андрэевай
Дызайн вокладкі Віталь Сыч
Карэктар Юлія Мацук

Падпісана да друку 30.12.2016. Фармат 60х84 $^1/_{16}$.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 3,92. Улік.-выд. арк. 0,84.
Наклад 200 асоб. Замова № 32.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.